БРАСЛАЎШЧЫНА, ГЛЫБОЧЧЫНА, МЁРШЧЫНА, ПАСТАЎШЧЫНА, ШАРКОЎШЧЫНА



**Дзіцячы дадатак газеты «Сяброўка»**

**№1(1), кастрычнік 2000 год.**

# Ліхтарык

✔ ***Калонка рэдактара.***

Дарагія дзеці!

Кастрычнік 2000г. – гэта час нараджэння нашай газеты “Ліхтарык”. Ёсць на Беларусі шмат цікавых выданняў для дзяцей. Але мы спадзяемся, што вы не застанецеся абыякавымі да “Ліхтарыка”. Бо, менавіта, гэта газета прадставіць магчымасць усім дзецям Заходняй Віцебшчыны выказваць на яе старонках свае думкі, меркаванні, погляды наконт становішча дзяцей ў грамадстве, іх правоў і абавязкаў. Калі ў вас талент мастака ці паэта, дасылайце свае малюнкі і вершы, калі вы добры кулінар ці вынаходнік, падзяліцеся сваімі набыткамі. Наогул, хацелася, каб “Ліхтарык” быў не толькі газетай для дзяцей і пра дзяцей, але і каб ўвесь матэрыял рыхтавалі самі дзеці. А мы, дарослыя, будзем вам дапамагаць. Толькі ў гэтым выпадку наш “Ліхтарык” стане цікавым для ўсіх юных чытачоў. Чакаем ад вас, дарагія дзеці, падтрымкі і прапаноў.

***Тамара Храпавіцкая, рэдактар***

## САМАВЫЯЎЛЕННЕ ЦІ АДСУТНАСЦЬ ГУСТУ ?

Набліжэнне восені выклікае ў людзей розныя пачуцці. У дзяцей – радасць. Адпачыўшы за лета, яны прыйдуць у чыстыя класы атрымаць новыя падручнікі, убачыць сяброў, падзеляцца ўражаннямі. У дарослых пачатак навучальнага году – гэта перш за ўсё клопаты. Трэба адправіць дзяцей у школу, каб у іх было ўсё неабходнае для вучобы, ды і апрануць не горш за іншых. Дарэчы, пра адзенне. Некалі было значна прасцей : карычневага колеру сукенкі для дзяўчынак і сінія касцюмчыкі для хлапчукоў. Але новы час прынёс змены ў знешні выгляд школьніка. У што толькі не апрануты цяперашнія вучні. Міні-спадніцы і спадніцы да пят, шырачэнныя, як у Тараса Бульбы, порткі і вузенькія штаны (пэўна трэба намыліцца, каб у іх улезці). Многія не могуць жыць без спартыўных касцюмаў. Такое ўражанне, што яны нават спяць у іх. І не важна падлеткам – да твару, да фігуры ім гэта адзенне ці не. Не будзем ужо гаварыць пра абутак : адных абцасаў шырокі спектр. Глядзіш на іх і думаеш: няўжо бацькі не ведаюць, што такім абуткам яны калечаць сваё дзіця.

Адны кажуць, што трэба вярнуцца да школьнай формы. Гэта і прыгожа, і танна, ды і дзіцяці няма прычыны для зайздрасці і крыўды, што хтосці жыве багацей, чым яго сям’я. Іншыя сцвярджаюць: школьная форма – перажытак мінулага. Нельга ўсіх загнаць у адзін колер ці фасон. Адзенне адлюстроўвае характар чалавека, яго светаўспрыманне. З гэтым нельга не пагадзіцца. І ўсё ж нашым дзецям трэба ведаць ведаць месца і меру свайго самавыяўлення. Дарослыя мужчыны ці жанчыны не прыйдуць на свята ў зацяганым спартыўным касцюме ці на працу ў дэкальтэ. І наша бацькоўская задача – растлумачыць сваёй дачцэ ці сыну, што міні-спадніца (якую нават цяжка назваць спадніцай) ці выпушчаная на штаны кашуля – адзенне не для школы. Бо справа тут не ў самавыяўленні ці модзе, а ў адсутнасці густу. І, каб вучань выглядаў вучнем, не абавязкова вяртацца да надакучыўшай многім школьнай форме.

А як вы мяркуеце, дарагія дзеці? Дасылайце нам свае прапановы і малюнкі мадэлей школьнай формы.

***Т. Гасьціловіч***

## АСІЛАК

*Прывітанне! Калі вы наведваеце гурток баявога майстэрства ці любіце глядзець фільмы з баявымі майстэрствамі, то вам спадабаецца падрыхтаваны намі матэрыял.*

# З гісторыі нацыянальных відаў барацьбы.

***Джыу–джытсу*** - адна з старадаўніх японскіх сістэм рукапашнай схваткі без зброі, каторай павінен быў валодаць кожны самурай. На мяжы XX стогоддзя джыу-джытсу пачалі практыкаваць у Еўропе і Амерыцы.



***Дзю-до*** ўяўляла сабой новы больш высокі этап развіцця джыу-джытсу. У канцы X1X стагоддзя заснавальнік школы дзю-до Дзінгара Кана, вывучыўшы прыёмы шэрагу старадаўніх школ самаабароны, у першую чаргу джыу-джытсу, стварыў на іх базе новы прыкладны від спартыўнай барацьбы. Небяспечныя для здароўя і жыцця прыёмы былі ліквідаваны ці, наогул, пераведзены ў баявы раздзел.

***Каратэ*** - другі від японскай барацьбы, які атрымаў шырокую вядомасць у апошнія дзесяцігоддзі, таксама мае старажытныя вытокі. Хоць каратэ звычайна мянуецца барацьбой, але ў сапраўднасці гэта не барацьба, а сістэма боя. У адрознне ад баявога ***самба***, дзе дастаткова шырока прадстаўлены не толькі ўдары, але і іншыя сур`ёзныя прыёмы, у каратэ такія прыёмы амаль не прымяняюцца. Праўда, каратэ – гэта толькі эквівалент адной са старажытных усходніх тэхнік рукапашнага бою, распаўсюджаны ў Кітаі пад назвай ***у-шу***. Дарэчы, на Захадзе у-шу больш вядома пад назвай ***кунг-фу***.

***Руская барацьба*** ўпершыню ўпамінаецца ў летапісах у 993 годзе.Самы моцны волат Старажытнай Русі Ян Усмар выйшаў на паядынак без зброі з печанежскім веліканам перад бітвай рускіх з стэпавікамі. Пабачыўшы свайго непрыяцеля печанежскі асілак рассмяяўся: Ян быў сярэдняга росту і целаскладу. Тым не менш малады жыхар Кіева па словах летапісца, “ удави печенезина в руках до смерти и удари им о землю.” Існавалі тры разнавіднасці рускай барацьбы: на пасах, у схватку і не ў схватку.

***Гулеш*** – азербайджанская барацьба. Ужо ў X1-X11 стагоддзях у Азербайджане існавалі спецыяльныя ўстановы для трэніровак атлетаў, каторыя называліся зорхана ( дом сілы ). Там асілкі не толькі вывучалі прыёмы і практыкаваліся, але і рабілі спецыяльныя практыкаванні для развіцця сілы. Самыя вядомыя асілкі нашывалі на калені маленькае люстэрка ў знак таго,што яны ні за што не разаб`юць яго, так як ніколі не датыкнуцца да зямлі нават каленам.

Шмат цікавых відаў барацьбы існавала на Брытанскіх астравах.

***Кумберлендскі*** і ***вестмарлендскі*** - два вельмі блізкіх стылі барацьбы ў абхват і без падножак, якія некалі былі вельмі папулярнымі і збіралі натоўпы гледачоў. Мелі шырокае распаўсюджанне і два ін-шых стылі-блізняцы-карнуольскі і дэваншырскі, але яны так і не змаглі прабіцца на спартыўныя пля-цоўкі буйных гарадоў,хаця іх прыхільнікі сцвярджалі,што такая сістэма барацьбы самая лепшая ў свеце. Тут на самой справе існавала значная свабода дзеянняў і разнастайнасць прыёмаў. Нават дазваля-ліся забароненыя ў другіх відах кіданні з дапамогай ног. Пры стварэнні агульных правілаў для розных відаў барацьбы, брытанцы прынялі сапраўды мудрае рашэнне:дазволіць дазволіць усе без выключэння прыёмы.

З даўніх часоў у Швейцарыі практыкуецца старадаўняя барацьба ***швінгэн***. На мяжы X1X і XX стагоддзяў там нават быў спецыяльна створанае Федэральнае таварыства швінгераў. Зараз у яго уваходзяць некалькі тысяч барцоў. Спартыўны касцюм швінгера складаецца з моцнага паса, кароткіх портак і кашулі. Але за апошні час ён значна змяніўся. Яны выступаюць у звычайных штанах, на якія апранаюцца шорты.

***Матэрыял падрыхтаваў Валодзя Карпушаў.***



*Сябры! Калі вашы бацькі вырашылі набыць аўтамабіль парайце ім купіць VOLKSWAGEN. І не таму, што гэта мая любімая марка, але у першую чаргу гэта надзейны і зручны транспартны сродак. У нашым артыкуле размова пойдзе менавіта пра аўтамабілі сусветна вядомага канцэрна VOLKSWAGEN.*

# Сябра па прозвішчу "VOLKSWAGEN"

На нашым рынку аўтамабілі гэтай маркі па папулярнасці знаходзіцца калі не на першым месцы, то пэўна ў першай тройцы. Цяжка сказаць, што так вабіць пакупнікоў –надзейнасць, якасць, даволі даступны кошт ці значная распаўсюджанасць гэтай маркі.

Практычна кожную з мадэлей VOLKSWAGEN можна без перабольшання назваць хітом свайго часу. У сямідзесятыя гэта быў "Жук", у васьмідзесятыя – Golf першага і другога пакалення, у дзевяностыя VW выдаў цэлы тузін зорак – Bora, Polo, Passat B5. На аўтарынку самыя старыя мадэлі VW адносяцца да канца 70-х – пачатку 80-х гадоў. Гэта мадэлі-продкі сучасных Golf і Passat.



Малюнак Дз. Рутко

Golf-Jetta - мадэль дэбютавала ў 1976 годзе. Яе нельга назваць "крутой", але нават зараз, калі прайшло столькі часу ,мадэль гэта выглядае даволі сімпатычнай.Самы слабы Golf-Jetta меў 1,1 –літровы рухавік магутнасцю 50 к.с. і пры гэтым ён развіваў хуткасць 150 км у гадзіну ,а разганяўся з места да 100 км у гадзіну за 16,8 с. Асобна стаяла мадэль GTi / Gli . Так называлася спартыўная версія Golf /Jetta , каторая мела 1,6 –літровы бензінавы рухавік з упрыскам паліва і развівала магутнасць 110 к.с. Улічваючы, што гэтыя сілы "раскалыхвалі" усяго толькі 840 кг. масы, нядзіўна, што Golf GTi мог разганяцца з месца да 100 км у гадзіну за 9,1 с. і "ляцеў" з максімальнай хуткасцю 182 км у гадзіну. Прыкладна такія ж характарыстыкі меў і седан Jetta GTi. Passat , які цяпер па традыцыі можна называць B1, таксама прыйшоў з сярэдзіны семідзесятых і выпускаўся да 1981 года. У канцы 1986 года з явіліся першыя Passat B2. Аўтамабіль быў так падобны на свайго папярэдніка,што многім B2 здаўся чарговай мадэрнізацыяй. Але гэта не так. Акрамя змененых знешніх памераў, былі прыменены зусім новая падвеска і трансмісія. Рухавікі для B2 таксама выкарыстоўваліся ад мадэлі Golf / Jetta. Праз два гады , у жніўні 83-га, яму на дапамогу прыйшоў Golf 2. Мадэль атрымалася настолькі ўдалай,што амаль новы Passat здаваўся побач з ёй выхадцам з мінулага стагоддзя.Прыйшлося ў 1984 годзе, разам з выпускам Jetta 2 , мадэрнізаваць і B2. Сям`я Golf/Jetta 2, пастаянна мадэрнізуючыся і змяняючыся ў лепшы бок, выпускалася да 1993 года. За гэтыя гады мадэль не атрымала толькі адзін тып кузава " універсал". Такі гонар выпаў толькі трэцяму пакаленню.

Для многіх паняцце "прэстыжны" VW набыло сэнс у 1988 годзе, калі дэбютаваў новы Passat B3. Аўтамабіль атрымаўся настолькі добрым і недарагім адначасова, што многія набывалі B3 замест больш прэстыжных і дарагіх мадэлей. У жніўні 1991 года свету з`явіўся новы цуд – Golf 3. Як і новы Passat, гэта мадэль таксама як бы падрасла, зрабіла крок у накірунку аўтамабіляў сярэдняга класа.

У 1997/1998 гадах канцэрн выдаў свае козыры – Passat B5 і Golf 4, а таксама аўтамабіль з цікавай назвай Bora. Гэтыя мадэлі зараз знаходзяцца ў вытворчасці і, напэўна, пражывуць без значных змяненняў яшчэ гадоў з пяць.

***Матэрыял падрыхтаваў Алёша Храпавіцкі.***

# АДГАДАЙ!

## Якая казка?

Вы любіце казкі і часта пытаеце: «А што яшчэ пачытаць?» Вам параіць гэтая галаваломка. Як жа яе разгадаць? Трэба ўзяць першую літару з назвы кожнага прадмета і запісаць пад ім.

А хто аўтар гэтай казкі, даведаецеся, калі разгадаеце рэбус у цэнтры малюнка.



## Назва кнігі

З дапамогай люстэрка прачытайце назву кнігі, а разгадаўшы рэбус — прозвішча яе аўтара.





Гэта наш Юрась! Ён падарожнічаць збіраецца па ўсіму свету. Што ўбачыць цікавае - раскажа вам. Але для яго вандроўкі патрэбен хуткі і незвычайны транспартны сродак. Дасылайце нам, дарагія рабяты, свае прапановы-малюнкі.

## Пабудуйце квадрат



З шасці костачак даміно пабудуйце такі квадрат, у якім сума ачкоў на кожным баку была б 18.

Ліхтарык

Рэдактар Тамара Храпавіцкая

г. Паставы, вул.Скарыны, 12 (02155) 3-59-95

Меркаванні рэдакцыі і аўтара могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў.

Наклад 299 паасобнікаў

Распаўсюджваецца бясплатна на правах унутранай дакументацыі

Аддрукавана на абсталяванні ВАГА «Фонд імя Л. Сапегі» г.Віцебск